Выдавец:
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года
№4(616) 26 студзеня 2012 года.
Кошт свабодны.

Глыбоцкі раён

# Вяртанне да сваіх каранёў

■ Станіслаў Раманчук

**Усё меней часу застаецца да пачатку чарговага Дня беларускага пісьменства, які пройдзе сёлета ўвосень ў Глыбокім.**

Гэта значная падзея культурнага жыцця Беларусі, безумоўна, выкліча прыток гасцей у старажытны горад, які аднак дагэтуль не мае сучаснага камфартабельнага гатэля. Без такой гасцініцы будзе цяжка ажыццявіць намечаны мясцовым кіраўніцтвам маштабны праект па стварэнню ў райцэнтры цэлага турыстычнага квартала і сваёй маленькай Венецыі. Пакуль жа правільна вырашана пачаць работы з гістарычнага цэнтра мястэчка – плошчы 17 верасня, дзе знаходзяцца асноўныя славутасці краю - праваслаўны сабор і троіцкі касцёл архітэктуры XVIII стагодддзя. Але глыбачанам пасуе, што плошча захавала, як і ў суседніх Паставах, старажытную планіроўку. Справа за тым, каб паспрабаваць стылізаваць розныя пабудовы ў цэнтры горада пад старажытную мінуўшчыну, калі тут былі карчмы, вінныя падвальчыкі, розныя крамы і рэстарацыі. Зразумела, спатрэбіцца на ажыцціўленне цікавага праекта вельмі шмат сродкаў, але ж у райцэнтры дзейнічаюць буйныя па маштабах вобласці прадпрыемствы – МКК, мясакамбінат і іншыя.. Летась першыя крокі па стварэнню турыстычнага квартала мінулага зрабілі і абуладкавалі на беразе возера дзіцячую пляцоўку. Каб давесці добрую задуму да ладу, спатрэбіцца багата часу і без прыцягнення розных інвестараў і пазабюджэтных сродкаў, што ўжо пачалося, тут не абысціся. А ў Глыбокае турыстаў павінна ездзіць значна болей, чым цяпер, тут ёсць што паглядзець, бо на слыху прозвішчы Напалеона, Даленгі-Мастовіча, Сухога, Язэпа Драздовіча і іншых вядомых людзей, пакінуўшых свой след на глыбоцкіх вуліцах.



Мёрскі раён

# Падман бокам вылез

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам у сферы найноўшых інфармацыйных тэхналогій якіх толькі кур'ёзаў не здараецца.**

Яшчэ мінулым летам работнік аднаго з прадпрыемстваў Мёрскага раёна недзе згубіў сваю SIM-карту да свайго мабільнага тэлефона. Ён ужо перастаў перажываць з-за гэтай згубы, як бухгалтэрыя запатрабавала аплаціць 9 млн. рублёў, выстаўленых мабільным аператарам за паслугі. Прыйшлося звярнуцца ў мясцовую міліцыю з заявай, што нехта карыстаецца ягоным згубленым тэлефонным нумарам сотавай сувязі. Далей да гэтай справы падключыліся спецыялісты і правялі неабходную праверку. Як высветлілася потым, некалькі тыдняў назад згубленую "сімку" знайшоў 16-гадовы юнак з Полацка. Ён убачыў гэту электронную карту на падлозе хімчысткі, дзе працуе яго мама і куды здаваў пачысціць свой касцюм жыхар Мёршчыны. Аднак замест таго, каб паведаміць аб гэтай знаходцы, хлопец вырашыў пакарыстацца такім дармавым шчасцем. У справе электронікі ён быў сапраўдным эрудытам і змог нават падабраць неабходны пароль. Чужой электроннай карткай юны палачанін распараджаўся, як сваёй, ва ўласным мабільным тэлефоне. Гэты вундэркінд атрымаў несанкцыяваны доступ на права карыстацца Інтэрнетам і за дабраты цывілізацыі не думаў разлічвацца. Вось толькі за такія вольнасці існуе нават спецыяльны артыкул Крымінальнага кодэкса. Па ўзбуджанай крымінальнай справе тут можа быць нават пакаранне да 2-х гадоў пазбаўлення волі, але, найбольш верагодна, на першы раз да турмы справа не дойдзе.

Пастаўскі раён

# Ад экстрааперацый да электронных медкарт

■ Кастусь Александровіч

**Ужо некалькі гадоў на базе Пастаўскага раёна адпрацоўваецца мадэль забеспячэння на месцы аддаленага рэгіёна неабходнай медыцынскай дапамогай.**

Летам мінулага года пасля завяршэння капітальнага рамонту хірургічнага аддзялення райбальніцы рашыліся праводзіць складаныя аперацыі па татальным эндапратэзіраванні тазасцегнавых суставаў, у якіх патрэбу маюць больш 70 мясцовых жыхароў. Дагэтуль пасля аснашчэння клінікі сучаснай медапаратурай мясцовыя хірургі паспяхова зрабілі больш трохсот лапараскапічных аперацый без значнай шкоды для здароўя пацыентаў. Напрыканцы снежня ў ЦРБ паспяхова прааперыравалі першых двух пацыентаў, якія хадзіць не маглі пасля траўм. Праўда, аперацыі гэтыя спачатку вялі ўрачы-траўматолагі з абласнога цэнтра, але ім асісціравалі мясцовыя медыкі, якія з цягам часу пачнуць аперыраваць на суставах самастойна. Да канца года ў райцэнтры зробяць яшчэ 11 такіх унікальных аперацый. А зараз у Паставах завяршаюць працу па пераходу на электронныя тэхналогіі і такія ж медыцынскія карты пацыентаў. Лакальная камп'ютарная сетка ўрачоў складзе 120 камп'ютараў, яна мае сувязь з абласнымі клінікамі і дае магчымасць кансультаваць медыкаў нават падчас аперацый у рэжыме он-лайн. Жыхары горада і раёна на прыём да спецыялістаў атрымалі магчымасць запісвацца праз Інтэрнет, як гэта цяпер робіцца паўсюдна ў Еўропе, Расіі і ва Украіне.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 26.01.12 | | | | Пятніца 27.01.12 | | | | Субота 28.01.12 | | | | Нядзеля 29.01.12 | | | | Пнд. 30.01.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -11 | -12 | -11 | -10 | -10 | -10 | -11 | -11 | -12 | -14 | -14 | -16 | -18 | -20 | -17 | -20 | -22 | -23 | -18 |
| Ціск | 759 | 760 | 761 | 762 | 763 | 764 | 765 | 765 | 766 | 766 | 766 | 766 | 765 | 765 | 764 | 764 | 763 | 763 | 763 |
| Вільготнасць | 83 | 86 | 86 | 86 | 88 | 90 | 84 | 86 | 86 | 86 | 79 | 83 | 77 | 86 | 80 | 87 | 70 | 74 | 83 |
| Вецер м/сек | В 5 | В 5 | В 5 | В 5 | Ю-В 4 | В 4 | В 4 | Ю-В 5 | Ю-В 4 | С-В 4 | С-В 4 | В 4 | В 3 | С-В 4 | С-В 4 | В 3 | В 3 | В 2 | В 2 |
| | | 09:11 | 17:32 | | | 09:09 | 17:34 | | | 09:07 | 17:36 | | | 09:06 | 17:38 | | 09:04 | 17:40 | |
| | | 09:48 | 21:54 | | | 10:04 | 23:06 | | | 10:19 | - | | | 10:35 | 00:17 | | 10:54 | 01:26 | |

# Лічба нумара

## 30000

– столькі работнікаў і нават болей, па дадзеных статыстыкі, звольніліся летась за 11 месяцаў з будаўнічых арганізацый толькі ў адной Віцебскай вобласці. І яны паступілі, сапраўды, правільна летась, калі мінулы 2011 год (хто забыўся, пра гэта ўспомнім) быў аб'яўлены Годам прадпрымальніцтва. І вось калі сапраўдныя прафесіяналы ўбачылі, што адбываецца ў будаўнічай галіне, многія з іх вырашылі працаваць толькі ўжо ў суседняй краіне, а не ў вобласці, якая быццам была "бясспрэчным лідарам у Беларусі па выкананні большасці прагнозных паказчыкаў".

Сістэмны ўсеабдымны крызіс, як бы ад гэтага ні адмаўляліся, пагоршыў у мінулым годзе становішча ўсіх беларусаў. Не зважаючы на рашэнні IV Усебеларускага народнага сходу і завяршэнне прэзідэнцкай кампаніі, беларускі рубель абясцэніўся на 170 %, паперлі як шалёныя цэны, эканоміка стала гіперінфляцыйнай пры гадавой інфляцыі пад 120 %, што прадвызначыла першы год новай пяцігодкі пад знакам збяднення большай часткі насельніцтва. На гэтым фоне гадавое заданне па ўводу жылля ў Беларусі было выканана толькі на 73 % і не было здадзена да плану амаль 1,2 млн. кв. метраў жылой плошчы.

Праўда, айчынныя будаўнікі змаглі пабудаваць за год 68 тысяч кватэр. Аднак пазалетась, у 2010 годзе (называўся Годам якасці) было здадзена 85 тысяч жылых памяшканняў. Мінулы год паклаў пачатак крушэнню жыццёвых планаў соцень тысяч жадаючых абзавесціся ўласным дахам над галавой. Пры будаўніцтве жылля цяпер большасці беларусаў прыйдзецца спадзявацца толькі на сябе, паколькі на ранейшую дзяржпадтрымку і льготныя крэдыты могуць спадзявацца толькі асобныя групы.

Дайшло да таго, што пад пытаннем узвядзенне нават шырока разрэкламаваных гарадоў-спутнікаў сталіцы. Першы з іх у Смалявічах у лепшым выпадку пачнуць будаваць у 2014 годзе, бо, як аказалася там кошт будаўніцтва вышэйшы, чым у Мінску, а з ліку жадаючых мінчан з чаргавікоў толькі адзін (!) згадзіўся перасяліцца жыць у прыгарадзе беларускай сталіцы. Дарэчы, каб быць прынятым на кватэрны ўлік у гэтым мегаполісе трэба пастаянна пражываць на працягу 10 апошніх гадоў – такая вось арыфметыка.

Па-сутнасці, і наступіўшы 2012 год для большасці з нас стаў не годам кніг, а сапраўдным Годам чарговага выжывання. Аднак, цікава, што не перавяліся ў краіне яркія аптымісты, хто ўпэўнены ў нашым светлым будучым. Першым у Беларусі загадаў давесці да канца года сярэднюю зарплату зноў да 500 долараў, правільна здагадаліся, старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец, у мінулым доктар па спецыяльнасці. Па ягоных дадзеных, зараз віцябляне маюць у кішэнях штомесяц па 280 зялёных паперак у пераліку па курсу, хоць у глыбінцы мала хто і 200 $ зарабляе, калі быць шчырым.

Гэты самы смелы айчынны кіраўнік увесь час хоча быць першым, прыдумаў у аснову стратэгіі развіцця Прыдзвінскага краю цэлых 25 мэтавых праграм, адна з самых вядомых "Чыстае поле". Ён на мінулы год у студзені 2011 года загадваў невыканальныя задачы па росту аб'ёмаў вытворчасці на 20 % у фізічным вымярэнні. Сёлета патрабуецца зарабіць грошай у 1,8 разы болей, каб вярнуцца на пройдзены этап. Гэта чыстая манілаўшчына, бо не менш амбіцыёзныя задачы і патрабаванні па нарошчванню бударганізацыямі вобласці (іх ужо пакінулі лепшыя кадры) экспарту будаўнічых паслуг.

Толькі поўны дылетант можа патрабаваць у 2 разы павялічыць прадукцыйнасць працы без укаранення новых тэхналогій на зношаным да крайнасці абсталяванні. У нас за кошт выкарыстання прыродных рэсурсаў і геапалітычнага размяшчэння Прыдзвіння імем рэвалюцыі загадана яшчэ скараціць энергазатраты на 10 %, рэнтабельнасць прадаж давесці да 10 %, прывагі жывёлы да 700 грам у стукі, а гадавыя надоі малака – да 5 тысяч літраў з адной каровы. І толькі спецыялістам зразумела, што з такіх вось высокіх рубяжоў у канцы снежня мала што выйдзе на фінішы гэтага года.

Тут бы захаваць дасягнутыя аб'ёмы вытворчасці, калі быццам будзе скарачэнне колькасці працоўных. Аднак адно відавочна, што экспарт беларускіх паслуг у суседніх з намі краінах, найперш на прасторах Расіі, сёлета будзе ўзрастаць. Толькі ўжо ў індывідуальным парадку, бо там больш выгадна за адну і тую ж працу мець даходы ў 3-4 разы большыя, чым дома.

## Дзень за днём

**Пасля рэзкага падзення летась жыццёвага ўзроўню беларусаў кіраўніцтва краіны выхад з крызісу запланавала за кошт цярплівых, памяркоўных працоўных і пенсіянераў, бо заробкі і пенсіі ў 2012 годзе ўзрастуць нязначна. Валютныя рэзервы Беларусі папоўніў 2-гі транш крэдыту ЕўрАзЭС, іх аб'ём дасягнуў гістарычнага максімуму. З пачатку сваёй дзейнасці новы Следчы камітэт РБ прыняў да вытворчасці ўжо больш 120 тысяч крымінальных спраў. У Богаслужэннях на праваслаўнае Раство Хрыстовае ўдзельнічалі 254 тысячы вернікаў, у каталікоў раней храмы наведалі ноччу 25 снежня каля 240 тысяч.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША**. Міністр абароны Леон Панета папярэдзіў Іран, што ў выпадку перакрыцця ім Армузскага праліва (40 % перавозак нафты ў свеце), ЗША "з гэтым мірыцца не будзе".

Расія. Нечаканасцю для многіх стаў заклік Патрыярха Кірыла да Крамля змяніць сваю палітыку, прыслухацца да людзей, якія незадаволены вынікамі выбараў і абраным курсам

**КНДР.** Новае кіраўніцтва краіны на чале з Кім Чэн Ынам звярнулася па каналах ААН да ЗША з просьбай аб аказанні дапамогі харчаваннем, карэйцы пастаянна недаядаюць.

**Іран.** На фоне абвастрэння адносін з Захадам улады арыштавалі некалькі чалавек, якія быццам шпіёнілі ў інтарэсах ЗША і закрылі ў Тэгеране Дом іранскага кіно.

**Венесуэла.** Прэзідэнт Уга Чавес заявіў, што яго ўрад не прызнае вердыкт Міжнароднага арбітражнага суда ў Парыжы аб выплаце кампенсацый 908 млн. $ кампаніі Exxon Mobil.

**Італія.** Канчаткова ўваход амерыканскай карпарацыі Chrysler у склад буйнейшай аўтамабільнай кампаніі краіны Fiat пройдзе праз 3 гады, італьянцы маюць 53,5 % акцый.

**Венгрыя.** Брусель пачаў праверку новых законаў краіны на адпаведнасць базавым нормам дэмакратыі ЕС, супраць венграў за парушэнні могуць быць уведзены жорсткія санкцыі.

**ЗША.** Нягледзячы на крытыку, дзеючы прэзідэнт Барак Абама карыстаецца даверам народа, за яго перавыбранне на 2-гі тэрмін выступаюць да 43 % амерыканцаў і ўсе дэмакраты.

**Расія.** Былы віцэ-прэм'ер Аляксей Кудрын прапанаваў апазіцыі дабівацца найперш правядзення пазачарговых выбараў у Дзярждуму РФ па новых справядлівых правілах.

**Пакістан.** Ісламісцкі рух "Талібан" узяў адказнасць за забойства 15 скрадзеных раней і замучаных 15 пакістанскіх ваенных у знак помсты за знішчэнне тут групы баевікоў.

**Латвія.** Вечарам за км ад станцыі "Крауя" каля Даўгаўпілса сышлі з рэек 16 вагонаў дызельцага цягніка з нафтапрадуктамі, людзі не пацярпелі, але шмат разлілося грузу.

**Польшча.** Акруговы суд у Беластоку прызнаў 40-гадовага грамадзяніна Беларусі вінаватым у спробе згвалтавання 3 дзяўчынак і пакараў педафіла 4-ма гадамі турмы.

**Казахстан.** Беларуская дыяспара пачала збор грошай на помнік рэпрэсаваным беларусам у Карагандзе ( было шмат сталінскіх лагераў) у форме барэльефа Е. Палацкай на валуне.

**Канада.** Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі хакею Рэне Фазель паведаміў, што кангрэс МФХ вырашыў правесці чэмпіянат свету-2014 у Беларусі, спорт па-за палітыкай.

**Аўстрыя.** Пасля надзвычай моцных снегападаў гурбы снегу вышынёй да 5 метраў накрылі захад краіны, спыніліся цягнікі і рух на дарогах, існуе пагроза снежных лавін.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Міністэрства энергетыкі РБ прапанавала свой ліміт на электрычнасць на ўзроўні 150 кВт/г у месяц, незалежна ад колькасці пражываючых.

**Іўе.** Міліцыя распачала крымінальную справу супраць 32-гадовага махляра, жыхара райцэнтра, які яшчэ ў снежні 2010 года таемна пахаваў маці і год атрымліваў за яе пенсію.

**Воранава.** З дапамогай участковага міліцыя за некалькі гадзін выявіла і затрымала групу з траіх школьнікаў ва ўзросце 16-17 гадоў, якія ўганялі, а потым і абкрадалі машыны Audi.

**Гродна.** У ДТЗ пры паездцы на калегію ў Мінск загінуў галоўны фармацэўт вобласці, 48-гадовы Мікалай Грыцэвіч, на гэтай трасе ў 2008 годзе загінуў і першы віцэ-мэр Гродна.

**Брэст.** Летась ніводная з 8 лядовых арэн вобласці, як пацвердзілі ў аблвыканкаме, не прынесла прыбытку. Арэны сталі галаўной боллю для Брэстчыны, бо прыносяць вялізныя страты.

Мінск. Праверка Дзяржкантролю і пракуратуры выявіла значныя хібы ў рабоце Мінскага аблвыканкама па прыцягненню замежных інвестыцый, валакіту і бюракратыю ў справах.

**Бялынічы.** Касір аднаго з банкаў райцэнтра скрала з рахунку дзяўчынкі-сіраты са школы-інтэрната 11 млн. рублёў, ёй пагражае да 7 гадоў турмы, банк кампенсаваў усе страты з %.

**Сілічы.** Са значным спазненнем з-за адсутнасці халадоў пачаўся сезон у мясцовым гарналыжным цэнтры, толькі пасля маразоў за 10 дзён на адной горцы адпачылі 12 тысяч.

**Магілёў.** І пасля аперацыі на пазваночніку ў калоніі № 15 зноў адмовілі ў датэрміновым вызваленні даверанай асобе А. Саннікава Дзмітрыю Бандарэнка, бо не прызнае сваёй віны

**Мінск.** Міністр спорту і турызму РБ А. Качан пацвердзіў, што няма ніякіх праблем з фінансаваннем падрыхтоўкі нашых спартсменаў да гульняў Алімпіяды-2012 у Лондане.

**Гродна.** На Аўгустоўскі канал прыйшлі першыя інвестары-прыватнікі, прадпрымальнік М. Карпач за 2 гады пабудуе шматфункцыянальны рэстаранна-забаўляльны комплекс.

**Нясвіж.** Урачыстае адкрыццё пасля рэстаўрацыі тут замка нацыянальна-гістарычнага музея-запаведніка Міністэрства культуры Беларусі плануе сёлета не пазней красавіка.

**Шклоў.** Адміністрацыя калоніі № 17 лічыць, што зняволены экс-кандыдат у прэзідэнты М. Статкевіч "не стаў на шлях выпраўлення" і не імкнецца да датэрміновага вызвалення.

**Камянец.** Пры спробе ўцячы ноччу з туберкулёзнай бальніцы сарвалася з 4 паверха на звязанай прастыні і загінула 30-гадовая вясковая жанчына, якую прымусова лячылі тут.

**Мінск.** На завяршэнне ўзвядзення духоўна-асветніцкага цэнтра БПЦ з дзяржбюджэту РБ выдзелена 20 млрд. рублёў, сёння ў сталіцы 23 царквы, 15 будуюцца, пры БССР былі 2.

# З 1 красавіка асобным катэгорыям грамадзян будзе аказвацца дадатковая сацдапамога



■ **БелТА**

**У Беларусі з 1 красавіка асобным катэгорыям грамадзян будзе аказвацца дадатковая сацыяльная дапамога. Адпаведны ўказ № 41 «Аб дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамозе» Аляксандр Лукашэнка падпісаў 19 студзеня.**

Дакумент прыняты ў мэтах удасканалення сістэмы дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі і ўзмацнення дзяржаўнай падтрымкі насельніцтва.

У сістэму дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі ўключаецца забеспячэнне прадуктамі харчавання дзяцей першых двух гадоў жыцця, якое прадастаўляецца сем'ям, маючым сярэднедушавы даход ніжэйшы за найбольшую велічыню бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, зацверджанага ўрадам, за два апошнія кварталы, а сем'ям пры нараджэнні двайнят або больш дзяцей — незалежна ад сярэднедушавога даходу.

Указам павялічваецца да 10-кратнага памеру бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва максімальны памер аднаразовай сацыяльнай дапамогі, а таксама пашыраюцца пералік тэхнічных сродкаў сацыяльнай рэабілітацыі, якія падлягаюць аплаце за кошт сродкаў дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі, і кола асоб, якія маюць права на яе прадастаўленне.

Таксама ўводзіцца новы від сацыяльнай дапамогі для інвалідаў І групы і дзяцей-інвалідаў, якія маюць IV ступень страты здароўя.

Грамадзяне (сем'і) набываюць права на адначасовы зварот па прадастаўленне розных відаў дзяржаўнай адраснай сацыяльнай дапамогі.

Указ уступае ў сілу з 1 красавіка 2012 года.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На мэблевай фабрыцы распрацавалі па ўнікальнай тэхналогіі міжпакаёвыя дзверы, якія здольныя вытрымліваць высокую тэмпературу і не прапускаюць дым пры пажарах.

**Полацк.** Гарадскія ўлады вырашылі правесці з 25 мая па 5 чэрвеня масавы ўрачыстасці з нагоды 1150-годдзя Полацка і падчас іх фестываль сярэднявечнай культуры "Рубон".

**Талачын**. Сумесны рэйд райпракуратуры і РАУС выявіў, што ў калгасах раёна не наладжана ахова маёмасці, летась на іх аб'ектах былі зафіксаваны і 4 буйныя пажары.

**Орша.** Мясцовы авіярамонтны завод А. Лукашэнка даручыў ураду Беларусі прадаць да канца года двум інвестарам, кантрольны пакет акцый – украінскай кампаніі "Мотор Січ".

**Віцебск.** У калоніі "Віцьба" (кантынгент – экс-супрацоўнікі МУС) да экс-кандыдата ў прэзідэнты А. Саннікава з 8 лістапада не пускалі яго адваката і трымалі ў камеры турмы.

**Дуброўна.** Ля вёскі Халаўе сапёры групы разміравання в/ч 5524 абясшкодзілі 28 мінамётных мін часоў ІІ Сусветнай вайны, якія знайшлі мясцовыя жыхары ў пералеску.

**Новалукомль.** Міліцыя пачала пошук мярзотніка, які ноччу падпаліў прыпаркаваны ў двары дома аўтамабіль "Форд-транзіт", яшчэ адно аўто згарэла ў гаражы на Аршаншчыне.

**Полацк.** Новую інавацыйную вытворчасць экалагічнай драўніны з адходаў коштам 5 млн. еўра пачала ствараць у горадзе ААТ "БелВТІ" сумесна з кампаніяй-інвестарам з Італіі.

**Орша.** Ноччу ў вёсцы Антонаўка адбыўся пажар, у сваім доме загінулі пасля гасцей санітарка Бабінічскага дома-інтэрната для інвалідаў і яе малодшы, 17-гадовы сын.

**Віцебск.** У ліку 9 спецыяльных прэмій "За духоўнае адраджэнне" атрымаў узнагароду ў сталіцы і дзіцячы харэаграфічны ансамбль "Зорка" гарадскога цэнтра культуры.

**Глыбокае.** Першай ахвярай ДТЗ на Віцебшчыне сёлета стаў 21-гадовы жыхар вёскі Бабічы, якога ля вёскі Ломці смяртэльна збіў 24-гадовы глыбачанін за рулём "Опеля".

**Лёзна.** Ля вёскі Надзежына міліцыя затрымала КамАЗ і канфіскавала 60 галоў свіней, якія перавозіў за мяжу 36-гадовы расіянін без адпаведных дакументаў на спецыфічны груз.

**Лепель.** Надзвычайны і паўнамоцны пасол Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан застаўся вельмі задаволеным ад асабістага ўдзелу тут у народным абрадзе "Жаніцьба Цярэшкі".

**Гарадок.** На жыхара Драгічына (Брэсцкая вобл.) наклалі штраф у памеры 20 базавых велічынь за тое, што на дарозе збіў дзікага кабана і нанёс урон жывой прыродзе.

**Віцебск.** У музеі прыватных калекцый адкрылася цікавая выстава вучаніцы 8 класа СШ №3 Лізы Маркевіч, якая сабрала больш 80 фігурак сувенірных ангелаў з краін свету.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Памёр мастак Яўген Шатохін

*Ён хадзіў сцежкамі Язэпа Драздовіча і маляваў краявіды Глыбоччыны і Шаркоўшчыны.*

«Нацыянальна-вызвольны Рух страціў выдатнага, мужнага барацьбіта за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны, – гаворыцца ў нэкралёгу, які распаўсюдзіла кіраўніцтва БНФ «Адраджэньне» і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ.

Яўген Шатохін (25 лютага 1947 – 22 студзеня 2012) быў адным зь першых арганізатараў вызвольнага ўздыму на прыканцы 1980-х гадоў, калі па ўсёй Беларусі патрыёты ўтваралі структуры Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». Менавіта Яўген Шатохін арганізаваў народны супраціў на Піншчыне супраць жнівеньскага путча 1991 году і ўзьняў над родным горадам бел-чырвона-белы сьцяг. На працягу больш чым дваццаці гадоў ён кіраваў фронтаўскім рухам на Піншчыне, быў арганізатарам палітычных акцый і беларускага асьветніцтва. Назаўжды застануцца ў скарбонцы нашай нацыянальнай культуры творы Яўгена Шатохіна – выдатнага мастака. У ягоных малюнках і акварэлях таленавіта адлюстравалася прыгажосьць і непаўторны характар нашай Радзімы, сказана ў нэкралёгу.


Яўген Шатохін

**У Пінску на 65-м годзе жыцця памёр беларускі мастак Яўген Шатохін.**

Творца вядомы сваімі выставамі ў Францыі, Польшчы, Расіі і Злучаных Штатах Амерыкі. Галоўнай задачаю мастак лічыў адлюстраванне прыгажосці роднай зямлі, гісторыі свайго краю.

Першыя свае выставы мастак арганізаваў у 1972 годзе.

За гэты час Яўген Шатохінстварыўнекалькі цыклаў і серый, прысвечаных выбітным асобам, краявідам земляў, дзе бываў і жыў.

У 2010 годзе да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы стварыў партрэт вялікага князя Вітаўта.

За сваю плённую працу ў 2004 годзе атрымаў медаль Беларускага саюза мастакоў «За заслугі ў выяўленчым мастацтве». Годам раней беларускі мастак атрымаў званне ганаровага грамадзяніна французскага горада Альберт.

Ад самага пачатку ўваходзіў у Беларускі народны фронт «Адраджэнне». З 1990 па 1999 год быў дэпутатам Пінскага гарсавета. Сябра Сойму Кансерватыўна-хрысціянскай партыі — Беларускі Народны Фронт «Адраджэнне».

25 лютага мастаку споўнілася б 65 год, на гэты дзень яго сябры і паплечнікі рыхтавалі творчыя вечары.

**– Ён быў пастаянным удзельнікам усіх драздовіцкіх пленэраў, актыўным удзельнікам усіх выніковых выставаў, якія арганізоўваў "Культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча"** (м. Германавічы, Шаркоўшчынскі р-н) **па гарадах і мястэчках Беларусі,**– кажа Ада Эльеўна Райчонак. **Нават не верыцца, што ён больш ніколі не прыйдзе і не скажа: "Ада, а я прывёз для музея цікавыя падарункі".**

– Асабліва ён любіў маю маленькую ўнучку Леру, для якой у яго заўжды былі ў запасе цікавыя рэчы,– працягвае А.Э. Райчонак- Сёння мы пайшлі з ёй у музей і паглядзелі на рэчы ім падараваныя. А іх шмат. Гэта і карціны, і каталогі, і фотаздымкі, і проста паштоўкі, лісты. І ва ўсім гэтым няўрымслівая душа нашага Яўгена, непахіснага змагара за свабоду і незалежнасць Беларусі. Яўген быў сябрам Саюза мастакоў Беларусі і ўваходзіў у суполку "Пагоня", з якой цесна супрацоўнічае Культурна-асветніцкі цэнтр імя Язэпа Драздовіча.

Так, Яўгена няма. Але ён застаецца з намі ў нашай памяці, у нашай агульнай справе на карысць Беларусі. Яго ніколі не забудуць маладыя мастакі-ўдзельнікі драздовіцкіх пленэраў, якім ён аддаваў часцінку сваёй душы, з якімі ён праводзіў майстар-класы, перадаючы ім сакрэты свайго майстэрства. Ён будзе для нас заўжды прыкладам вялікай любові да роднай Беларусі.

Няхай родная зямелька будзе табе лёгкім пухам, дарагі Яўген.


**Яўген Шатохін. Могілкі ў Ліплянах.** *Са збораў літаратурна-мастацкага музея імя Міхася Райчонка ў Германавічах.*


**Яўген Шатохін. Касцёл у Бабруйшчыне. З нізкі «Сцяжынкі Язэпа Драздовіча».** *Аловак, папера, 46х60. 1999*

## У Беларусі засталося 32 тысячы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны

З іх у вайне ўдзельнічалі 22,6 тысячы чалавек.

Па стане на 1 студзеня 2012 года пражываюць 31 905 ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Пра гэта паведаміла начальнік аддзела па справах ветэранаў і пажылых людзей Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Святлана Ермаковіч.

Па яе словах, сярод 22 599 удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны 6 366 чалавек з'яўляюцца інвалідамі вайны першай і другой групы.

«Час няўмольны: з кожным годам ветэранаў становіцца менш - адбіваюцца старэчы ўзрост, хваробы, наступствы раненняў», - сказала Святлана Ермаковіч.

Па стане на 1 студзеня 2011 года ў Беларусі жылі 44 142 ветэраны вайны, з іх удзельнікамі былі 32 036 чалавек.

## Ад Маладзечна да Кяны ў Літве будуць хадзіць электрычкі

**У лютым гэтага года прадпрыемства «Бел-чыгункапраект» плануе завяршыць работу над архітэктурным праектам «Электрыфікацыя напрамку Маладзечна — Гудагай — Дзяржаўная мяжа».**

Гэта дазволіць пачаць выбар генеральнага падрадчыка на будаўніцтва аб'екта на конкурснай аснове.

Пра гэта паведаміў прэс-цэнтр «Беларускай чыгункі».

У межах сумеснага з «Літоўскай чыгункай» праекта плануецца, што ўчастак будзе электрыфікаваны да Кяны (першы прыпынак на літоўскім баку) і Новай Вільні.

## Генпракуратура прапануе ўраду ўвесці забарону на выпуск пладова-ягадных мацаваных він нізкай якасці

**Генеральная пракуратура Беларусі рыхтуе інфармацыю на імя прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча з прапановамі ў сферы прафілактыкі злачыннасці, барацьбы з п'янствам.**

Як паведамілі ў Генпракуратуры, у ліку іншых мер будзе прапанавана ўвесці забарону на выпуск пладова-ягадных мацаваных він нізкай якасці, продаж алкагольных напояў асобам, якім менш за 21 год, рэкламу алкагольных напояў, у тым ліку піва. Прапануецца таксама значна абмежаваць колькасць месцаў рэалізацыі моцных спіртных напояў (каля навучальных установ, прамысловых прадпрыемстваў), укараніць працэдуру абавязковага тэставання навучэнцаў старэйшых класаў сярэдніх школ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, студэнтаў на прадмет ужывання наркатычных сродкаў і напояў, што змяшчаюць алкаголь, узмацніць антыалкагольную сацыяльную прапаганду.

У Генпракуратуры канстатуюць, што адных з самых сацыяльна значных праблем застаецца п'янства і алкагалізм. У медыцынскіх установах на ўліку з сіндромам залежнасці ад алкаголю (хранічны алкагалізм) стаяць больш за 180 тысяч чалавек. Аднак аб'ём спажывання алкагольных напояў няўхільна расце, што вядзе не толькі да алкагалізацыі насельніцтва, павелічэння колькасці псіхічных захворванняў, звязаных з ужываннем спіртных напояў, але і да незваротных сацыяльна-дэмаграфічных наступстваў.

Большасць асабліва цяжкіх і цяжкіх злачынстваў супраць асобы (забойствы, прычыненне цяжкіх цялесных пашкоджанняў) учыняецца асобамі, якія знаходзіліся ў стане алкагольнага ап'янення (нярэдка пасля сумеснага распівання спіртных напояў з пацярпелымі).

Колькасць злачынстваў, звязаных з кіраваннем транспартнымі сродкамі ў стане алкагольнага ап'янення (арт. 317-1 КК), павялічылася ў 2011 годзе ў параўнанні з 2010 годам з 4.984 да 5.074, ці на 1,8%.

У Генпракуратуры ўказваюць на тое, што да гэтага часу ў краіне адсутнічае дзейная база прафілактыкі супрацьпраўных паводзін, скіраваная найперш на дэкрыміналізацыю сямейна-бытавых адносін. Больш за 30 тысяч дзяцей жывуць у сем'ях у сацыяльна небяспечным становішчы.

Актуальнай застаецца праблема забеспячэння правапарадку ў грамадскіх месцах. У гэтай сферы дасягнута некаторае зніжэнне ліку зарэгістраваных злачынстваў — з 44.824 да 40.046, ці на 10,7%. Тым часам у 2011 годзе ў грамадскіх месцах іх учынена 30,3% ад усіх улічаных у рэспубліцы, у тым ліку 46 забойстваў, 277 цяжкіх цялесных пашкоджанняў, 43 згвалтаванні, 191 разбой, 2,3 тысячы рабаванняў, 3,2 тысячы хуліганстваў, 30,8 тысячы крадзяжоў.

***Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН***

# Мястэчка Глыбокае

## Гаспадарка мястэчка Глыбокае на пачатку XIX стагодзьдзя



■ **Аляксандр Івашчонак,** *бакалаўр гісторыі.*

### Аб аўтары:

**кс. Аляксандр Івашчонак CRT.** Нарадзіўся ў Глыбокім. Потым з бацькамі пераехаў на жыхарства ў в. Лаўцы. Скончыў Карабоўскую сярэднюю школу. Затым вучыўся ў Кракаве. Скончыў Ягелонскі ўнівэрсітэт з тытулам бакалаўра гісторыі і архівіста, пасьля вучыўся ў Папскім унівэрсітэце Яна Паўла ІІ ў Кракаве, дзе атрымаў тытул бакалаўра гісторыі Ўсходняй Эўропы. Затым ўступіў у каталіцкі Ордэн Клерыкаў Рэгулярных Тэатынаў. Зараз вучыцца ў Папскім унівэрсітэце Claretianum у Рыме і працуе ў правінцыяльным архіве тэатынаў у Нэапалі.

**Публікацыя захоўвае стыль і правапіс аўтара.**

### Уводзіны

У першай палове XIX ст. мястэчка Глыбокае пачало вельмі дынамічна разьвівацца, аднак трэба падкрэсьліць, што сам працэс эканамічнага разьвіцця быў запачаткаваны ўжо ў другой палове XVII ст. Розьніца з эканамічнага пункту гледжаньня паміж гэтымі двума перыядамі невялікая – зьмянілася дзяржаўная структура: перастала існаваць Рэч Паспалітая, а яе мейсца заняла Расейская Імперыя, але гэта толькі з палітычнага пункту гледжаньня, з гаспадарчага амаль нічога не зьмянілася.

Пераломным моментам у гаспадарчым разьвіцьці Глыбокага будзе паўстаньне 1831 г., калі царызм пачне ўжываць рэпрэсіі паўсюдна на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, натуральным вынікам якіх будзе гаспадарчы заняпад. Карацей кажучы, расейскія ўлады аж да так званага "польскага паўстаньня 1830-1831" не зьмянілі гаспадарчай сістэмы на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, дзе захавалася фальваракная гаспадарка, а не расейская – прыгонная.

Пасьля 1831 г. назіраецца агульны заняпад гаспадаркі на Глыбоччыне. Адным словам, пікам гаспадарчага разьвіцьця мястэчка Глыбокае, пачынаючы ад другой паловы XVII ст., а таксама ўсяго XVIII ст. будзе менавіта пачатак XIX ст. (аж да 1831 г.). Таму хацелася б больш падрабязна разгледзіць гаспадарчую сітуацыю на пярэдадні паўстаньня, а таксама падсумаваць вынікі эканамічнага разьвіцьця мястэчка Глыбокае за часы панаваньня ў ім спадчыннікаў Язэпа Корсака – Кармэлітаў Босых, дзякуючы якім мястэчка было адным з найбагацейшых у рэгіёне.

На пачатку хацелася б удакладніць, што мястэчка Глыбокае не панесла вялікіх страт ні ў час паўстаньня Т. Касьцюшкі, ні ў час Напалеонаўскай кампаніі, у адрозьненьні ад горада Глыбокае. Тое самае можна аднесьці і да эканамічнай сітуацыі. Адным словам, гаспадарка мястэчка амаль без перашкод паступова разьвівалася, набіраючы тэмп. Вялікая заслуга такога дынамічнага разьвіцьця належала да манахаў Кармэлітаў.

Каб лепш зразумець, чым быў гэты пік гаспадарчага разьвіцьця, трэба падрабязна прадставіць, як выглядала паўсядзённае жыцьцё, гаспадарку звычайных жыхароў мястэчка, якім кіравалі манахі, а таксама і гаспадарчае жыцьцё самага мястэчка.

### Мястэчка Глыбокае

Мястэчка Глыбокае на пярэдадні паўстаньня 1831 г. выглядала наступным чынам: уладальнікам мястэчка быў Кляштар Кармэлітаў Босых, так як мястэчка было прыватным; акрамя таго была таксама каталіцкая плябанія з ксяндзом пробашчам, аўстэрыя, якая належала да кляштара Кармэлітаў, а таксама 86 дымоў (хат) зь мясцовымі жыхарамі, якіх было 305 – 166 мужчын і 139 жанчын, а акрамя таго трэба дадаць ксяндза пробашча, арганіста, манахаў Кармэлітаў, якіх было 32, сьвецкіх працаўнікоў кляштара – 69, бедных, якія жылі ў шпіталі пры кляштары – 12, вучняў параф'яльнай школы пры кляштары – 15. Такім чынам агульная лічба жыхароў мястэчка Глыбокае складала прыблізна 400 чалавек.



**Касцёл і кляштар Кармэлітаў Босых да перабудовы пад праваслаўную царкву.** *Акварэль 1878 г.*

### І. Гаспадарчы стан кляштара

„Маторам" гаспадаркі мястэчка былі яго ўладальнікі – Кармэліты, яны кіравалі паўсядзённым жыцьцём Глыбокага, яны былі тымі, хто прышчэпліваў новыя тэхналогіі ў мясцовай гаспадарцы. Таму менавіта ад апісаньня іх гаспадаркі трэба пачаць, але толькі той часткі, якая знаходзілася ў самым мястэчку, бо маёнтак Кармэлітаў не абмяжоўваўся толькі межамі мястэчка, а быў у некалькі разоў большы.

### Лядоўня

Перад уяздной брамай на гаспадарчы дзядзінец, з боку, каля сьцяны кляштара знаходзілася манашская лядоўня – месца, дзе складавалі лёд, своеасаблівы прататып халадзільнай камеры. Лядоўня была выкапаная ў зямлі, уяўляла сабой вялікую, даўгую і глыбокую траншэю. Каб можна было ў яе патрапіць, быў прарыты сьпецыяльны праход – падземны калідор, які дазваляў увайсьці ў лядоўню і адначасова служыў за тэмпературную ізаляцыю. Сама лядоўня мела два бакавыя аддзяленьні зь невялікімі сенямі, якія таксама служылі для захаваньня сталай тэмпературы.

Сьцены, падлога і столь былі зробленыя з дыль – бярвеньняў, а не з камянёў, так як дрэва найлепш захоўвала лёд. Гэты лёд быў складаваны ў спецыяльна зробленыя каля сьцен сусекі, а таксама пад падлогу. У памяшканьнях лядоўні былі зробленыя сьпецыяльныя паліцы, на якіх знаходзіліся рэчы, такім чынам яны не датыкаліся лёду, а лёд не таяў так хутка, бо быў ізаляваны драўлянымі дылямі. Для захаваньня сталай тэмпэратуры на працягу ўсяго года (каля -15Сº) былі ўсталяваныя 4 драўляныя дзьверы, якія былі абітыя жалезам, з унутранымі замкамі пад ключ. Дах лядоўні быў пакладзены на ўзроўні паверхні зямлі і быў пакрыты гонтам – драўляным матэр'ялам ў форме дошчачкі зь невялікім зубам.



**Герб манашскага ордэна Кармэлітаў.**

### Брама

Каб патрапіць на дзядзінец кляштара, была збудаваная мураваная двухпавярховая брама, якая мела па баках два малыя і тры вялікія складзікі, з ганкам і прыступкамі ,каб узьняцца на браму. Малыя складзікі мелі па адным акне са шклом, а вялікія былі без вокан. Усе складзікі мелі моцныя акутыя дзьверы з унутранымі замкамі пад ключ. Сама брама мела двух'ярусны дах з ветрнікамі (wietrzniki), пакрыты гонтам, а ў ветраніках - устаўленае шкло. Вароты адчыняліся па палове, былі акутыя, абітыя футрам і памаляваныя, мелі засоў, а таксама замыкаліся на вісячы замкі.

*Працяг будзе.*



**Капліца, якая стаяла ў адну лінію з уваходнай брамай і замыкала правы кут агароджы. Выгляд з двара. Не захавалася.** *Фота 1930-ых гг.*



**Спадчына Кармэлітаў – крэсла прэора кляштара з двумя львінымі галовамі. Захоўваецца ў касьцёле сьв. Тройцы ў Глыбокім.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Скляпеньні кляштара Кармэлітаў. Будынак захаваўся (прымыкае да сёньняшняй царквы).** *Фота Леанарда Рачыцкага 1930-ыя гг.*

■ А.С.Крывёнак,
*дзяржаўны інспектар па энергетычнаму нагляду.*

# Асцярожна! Лінія электраперадачы!

Аналіз аварыйных адключэнняў у размеркавальнай сетцы 6-10 кв па Віцебскай вобласці ў 2011 годзе паказвае, што ў 27 выпадках адключэння адбыліся з-за пашкоджання кабельных ліній электраперадачы 6-10 кв у выніку незахавання арганізацыямі, якія праводзяць земляныя работы, патрабаванняў тэхнічных нарматыўных прававых актаў. Вынікам гэтых дзеянняў былі перапынкі ў электразабеспячэнні і нанясенне матэрыяльнага ўрону не толькі энергаснабжаючай арганізацыі, але і іншым суб'ектам гаспадарання.

Асноўныя допушчаныя парушэнні, якія прывялі да пашкоджання кабельных ліній электраперадачы:

- невыкананне адказным кіраўніком работ усіх мерапрыемстваў, паказаных у нарадзе-допуску на вытворчасць работ павышанай небяспекі;
- пачатак вытворчасці земляных работ на тэрыторыі арганізацый, населеных пунктаў, у ахоўных зонах падземных камунікацый без атрымання пісьмовага дазволу кіраўнікоў гэтых арганізацый, мясцовага выканаўчага камітэта і ўладальнікаў камунікацый;
- не правядзенне перад пачаткам раскопак кабельнай лініі кантрольнага вызначэння яе глыбіні залягання шурфоўкай пад наглядам працаўнікоў, што эксплуатуе арганізацыі – ўладальніка кабельнай лініі;
- не пазначэнне месцазнаходжання падземных камунікацый адпаведнымі знакамі ці надпісамі на плане (схеме) і на месцы выканання работ;
- ужыванне землеройных машын у межах ахоўнай зоны электракабеляў;
- парушэнне на будаўнічым аб'екце тэхналагічнай паслядоўнасці вядзення вытворчасці работ.

Так 26.12.2012 г. персаналам ДКУСП «Глыбоцкая СПМК-26» пры выкананні земляных работ у ахоўнай зоне КЛ-10 кв па пракладцы лїўневай каналізацыі жылога дома ў г.Глыбокае, па вул.Паўночнай, 11 была пашкоджана КЛ-10 кв.

Часткай 2 артыкула 20.3. «Парушэнне правіл аховы электрычных сетак» Асаблівай часткі Кодэкса Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні за парушэнне правіл аховы электрычных сетак ці перапынку ў забеспячэнні спажыўцоў электрычнай энергіяй, або прычыненне іншай шкоды прадугледжана адказнасць у выглядзе штрафу, на фізічную асобу ў памеры ад 20 да 50 базавых велічынь, на індывідуальнага прадпрымальніка – ад 20 да 100 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да 500 базавых велічынь.

■ А.В. Протас ,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Парушальнікі панясуць заслужанае пакаранне

Дзяржавай шмат увагі надаецца ахове прыродных багаццяў, створаны розныя прыродаахоўныя службы, якія кантралюючь парадак выкарыстання аб'ектаў жывёльнага і расліннага свету і ажыццяўляюць іх ахову ад браканьераў. Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь з'яўляецца асноўным звяном у прыродаахоўнай структуры, міжраённымі інспекцыямі выяўляецца асноўная маса парушэнняў. Толькі ў перыяд з 16 па 22 студзеня 2012 года падраздзяленнямі Дзяржаўнай інспекцыі па рэспубліцы выяўлена 227 парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, у парушальнікаў канфіскавана 57 адзінак агнястрэльнай зброі, у тым ліку 23 незарэгістраваных, 72 штукі іншых незаконных прылад палявання, 1127 кг. незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл, 158 кг. незаконна здабытай рыбы. Можна не сумнявацца, што ўсе парушальнікі панясуць заслужанае пакаранне паводле дзейснага заканадаўства.

Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету таксама штотыдзень затрымоўваюцца парушальнікі і браканьеры. За няпоўны месяц бягучага года канфіскавана 3 адзінкі зброі, 200 кг. незаконна здабытага мяса дзікіх жывёл. Раённыя суды выносяць сур'ёзныя пакаранні для парушальнікаў.

Так, яшчэ 3 снежня 2011 года на возеры Вялікія Швакшты Пастаўскага раёна супрацоўнікамі міжрайінспекцыі за спробу незаконнай здабычы рыбы сеткамі былі затрыманыя жыхары г.п. Нарач, Палюшкевіч Сяргей Анатольевіч і Ждановіч Дзяніс Віктаравіч. 26 снежня мінулага года адбыўся суд, у якім парушальнікі ўсяляк спрабавалі сысці ад адказнасці, змяняючы свае першапачатковыя сведчанні, агаворваючы інспектараў, але ў выніку справядлівасць і закон перамаглі. Мядзельскі раённы суд вынес пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 30 базавых велічынь кожнаму з парушальнікаў.

6 студзеня Глыбоцкі раённы суд прыцягнуў да адміністрацыйнай адказнасці жыхара г. Глыбокае, грамадзяніна Уткіна, за незаконную лоўлю рыбы сеткамі, штраф 10 базавых велічынь.

Жыхара г. Мінска Салошкіна Дзмітрыя Міхайлавіча за незаконнае паляванне суд Шаркоўшчынскага раёна прыцягнуў да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 10 базавых велічынь і пазбаўлення права палявання на 6 месяцаў.

Такіх прыкладаў можна прыводзіць шмат, а хацелася б, каб іх было значна менш.

Глыбоцкая міжрайінспекцыя звяртае ўвагу рыбаловаў-аматараў і просіць не карыстацца незразумелымі чуткамі. То арандаваны вадаём забралі ў арандатара і купляць рыбалоўную пуцёўку не трэба, то не трэба падпісваць жарліцы і шмат чаго іншага. Усю неабходную інфармацыю Вы можаце атрымаць у супрацоўнікаў міжрайінспекцыі ў любы час. Калі рыбалоў не жадае браць платную пуцёўку на аматарскае рыбалоўства ў арандатара рыбалоўных угоддзяў, то яго дзеянні разглядаюцца, як ажыццяўленне здабычы рыбы без належнага на тое дазволу, што цягне адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафу ад 10 да 50 базавых велічынь.

Яшчэ адно надзённае пытанне рыбалоўства, гэта пабытавае смецце, якое пакідаецца на лёдзе. Абследуючы вадаёмы раёна, часам здаецца, што на лёдзе пабывалі не рыбакі, а сапраўдныя п'яніцы, якія пакінулі пабітыя бутэлькі, пачкі ад цыгарэт і г.д. Увесну ўсё гэта будзе ў вадзе і на берагах азёр. Супрацоўнікі інспекцыі ў які раз заклікаюць грамадзян выконваць парадак, каб затым не тлумачыцца з інспектарамі, штраф за выкід смецця да 20 базавых велічынь.

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету ўдзячныя грамадзянам за дапамогу і падтрымку ў барацьбе з браканьерамі.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефоны: «гарачая лінія» – 8-02156-28670 – кругласутачна, маб.: 897-23-02, 890-55-28, 2-40-45-49, 347-85-14.

## Віншаванкі

*Раісу Вячаславаўну Паварэнь*

**Віншуем з юбілеем!**

Будь счастлива, хоть трудно иногда.
Любима будь, любовь спасёт всегда.
Будь молодцом, в любых условиях держись.
Ведь чтобы ни было – прекрасна жизнь.

*Сястра Валя.*

*Раісу Вячаславаўну Паварэнь*

**Віншуем з юбілеем!**

Настал не просто День рожденья –
Прекрасный праздник, юбилей.
Пусть греют душу поздравленья
Знакомых, близких и друзей.
Благополучия желаем
На много-много лет вперёд.
Путь радость сердце наполняет,
А в доме счастье пусть живёт.

*Пляменнікі Кіра і Вадзім.*

## МНС інфармуе
**на 24.01.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 90;
Гібель людзей – 12, з іх 0 дзіцяці;
Урон – 458,4 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 7;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 31 800 000 руб.

■ І.В. Федаровіч,
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

**27 студзеня 2012 года на тэрыторыі Рэспублікі Дзяржаўтаінспекцыяй праводзіцца Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху па тэматыцы:**

# «Разам да паразумення!»

**У сувязі з тым, што ў апошні час пачасціліся аварыі на дарогах, Дзяржаўтаінспекцыя Віцебшчыны праводзіць Адзіны дзень бяспекі дарожнага руху, правядзенне мерапрыемстваў, накіраваных на прафілактыку і папярэджванне парушэнняў ПДР сярод удзельнікаў дарожнага руху, умацаванне транспартнай дысцыпліны як сярод кіроўцаў, так і сярод пешаходаў.**

За 2011год на дарогах Віцебска і Віцебскай вобласці зарэгістравана 456 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх загінулі 91 чалавек, паранена 463, прычым па віне кіроўцаў адбылося 371 ДТЗ, у якіх загінулі 95 чалавек, 404 паранена. Як бачна, дарожна-транспартны траўматызм стаў адной з галоўных прычынаў гібелі людзей. Такое становішча шмат у чым з'яўляецца следствам агрэсіўных паводзін удзельнікаў дарожнага руху на дарогах. Паводле статыстыкі, у большасці выпадкаў вінаваты кіроўца.

Надзейнасць кіроўцы вызначае яго здольнасць кіраваць аўтамабілем, забяспечваючы пры гэтым максімальна надзейную бяспеку, як для сябе, так і для іншых удзельнікаў дарожнага руху. Гэтак жа надзейнасць кіроўцы ў значнай ступені залежыць ад яго маральных якасцяў, як дысцыплінаванасць, маральная і эмацыйная ўстойлівасць, самавалоданне, пачуццё адказнасці. Транспартная дысцыпліна кіроўцы забяспечваецца шляхам няўхільнага выканання патрабаванняў Правілаў дарожнага руху, праявы этыкі і павагі да іншых удзельнікаў дарожнага руху – кіроўцам, пешаходам, пасажырам.

У дарожным руху нярэдка сустракаюцца сітуацыі, у якіх верагоднасць з'яўлення небяспекі (дапусцім, выйсце пешахода на праезную частку) малаважная, але магчымая. Нярэдкія сітуацыі, калі віна цалкам кладзецца на пешахода, які знаходзіцца на праезнай частцы дарогі без святлоадбівальнага элемента, а то і яшчэ горш - у п'яным выглядзе.

Асабліва небяспечна перасякаць пешаходу праезную частку дарогі ў цёмны час сутак і ва ўмовах недастатковай бачнасці. Але, на жаль, і на пешаходным пераходзе часта здзяйсняюцца аварыі, такіх выпадкаў зарэгістравана 41. Пешаходы галоўным чынам ідуць на пешаходны пераход і пачынаюць пераходзіць праезную частку дарогі, не пераканаўшыся ў адсутнасці надыходзячага транспарту, і не абдумана становяцца ўдзельнікамі дарожна-транспартных здарэнняў, якя, як правіла, цягнуць за сабой цяжкія наступствы. Трэба заўсёды памятаць пра тое, што пры неспрыяльных пагодных умовах кіроўца можа не заўважыць пешахода, які пераходзіць праезную частку; і ёсць яшчэ адзін фактар – гэта час рэакцыі кіроўцы. Паводле праведзеных доследаў, час рэакцыі кіроўцы – 1 секунда, г.зн. толькі праз 1 секунду ён націскае на педаль тормазу, або паварочвае рулявое кола з мэтай прадухілення наезду, а пры хуткасці 40 км/г аўтамашына праязджае 11,1 метра, пры хуткасці 60 км/г – 16,6 метра. Кожны кіроўца павінен увесь час памятаць, што права пешахода на жыццё пераважае над правам кіроўцы транспартнага сродку на праезд, аднак і пешаходы павінны памятаць пра вышэйсказанае.

У адносінах паміж кіроўцамі важнае месца займае вадзіцельская этыка, галоўны запавет якой абвяшчае пра тое, што неабходна дапамагаць адзін аднаму – падказваць правільны манеўр, саступаць дарогу, папярэджваць пра небяспеку, дапамагаць ва ўхіленні няспраўнасцяў.

Кіроўца і пешаход павінны быць адказнымі, дысцыплінаванымі, узаемаветлівымі і выконваць Правілы дарожнага руху, тады непрыемных момантаў у жыцці можна пазбегнуць.

